ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года | №92 (4450) СЕРАДА, 16 лістапада 1994 года | Кошт па падпісцы — 16 руб., у розніцу — 60 руб.

## НГ-ІНФАРМ

### Назначэнні ў Міністэрстве адукацыі і навукі

ШАЎРУК Сяргей Валянцінавіч назначаны памочнікам міністра.

Шаўрук С.В., 1953 года нараджэння, закончыў Мінскі педагагічны інстытут, кандыдат гістарычных навук, дацэнт. Працаваў старшым навуковым супрацоўнікам, загадчыкам аддзялення — Цэнтра параўнальнай адукацыі нацыянальнага інстытута адукацыі.

МАСЛОЎСКІ Віталь Іванавіч назначаны галоўным экспертам упраўлення аналітычнай работы і перспектыўнага развіцця.

Маслоўскі В.І., 1943 года нараджэння, адукацыя вышэйшая, закончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт. Працаваў вядучым спецыялістам упраўлення па справах сацыяльна-культурнага комплексу Савета Міністраў.

ЛУГАВОЙ Яўген Іванавіч назначаны вядучым інспектарам упраўлення прафесійна-тэхнічнай адукацыі.

Лугавой Я.І., 1940 года нараджэння, адукацыя вышэйшая, скончыў Беларускі політэхнічны інстытут. Працаваў галоўным спецыялістам аддзела падрыхтоўкі і фарміравання кіраўнічых кадраў Кіраўніцтва Справамі Савета Міністраў.

### ШТО, ДЗЕ, КАЛІ

#### НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ ГУМАНІТАРНЫХ НАВУК АРГАНІЗУЕ

курсы павышэння кваліфікацыі для выкладчыкаў школ, ПТВ, ССНУ па наступных дысцыплінах:

21.11 — 02.12 — асновы этыкі, 21.11 — 02.12 — асновы экалогіі, 14.11 — 14.12 — сусветная літаратура, 21.11 — 21.12 — этнаграфія Беларусі;

з 15 лістапада па 1 снежня запрашае на сесію выкладчыкаў сярэдніх навучальных устаноў, ВНУ, спецыялістаў міністэрстваў і ведамстваў па крэатыўнай псіхапедагогіцы, псіхалогіі менеджменту і прадпрымальніцтву.

#### У ІНСТЫТУЦЕ ПАВЫШЭННЯ КВАЛІФІКАЦЫІ І ПЕРАПАДРЫХТОЎКІ КІРУЮЧЫХ КАДРАЎ І СПЕЦЫЯЛІСТАЎ АДУКАЦЫІ:

З трэцяга лістапада факультэт кіруючых работнікаў і спецыялістаў вышэйшай школы праводзіць курсы для супрацоўнікаў ІПК па тэме "Змест, арганізацыя і тэхналогіі дзейнасці ІПК у развіццёвай рэгіянальнай адукацыйнай прасторы". На курсах прадугледжваецца вырашэнне наступных задач: змена матывацыі, псіхалагічных стэрэатыпаў, стварэнне навукова-метадычных, арганізацыйна-ўпраўленчых і педагагічных передумоў для выканання ІПК функцый развіцця адукацыі ў рэгіёне, рэканструкцыя існуючага зместу і тэхналогіі дзейнасці ІПК.

7—26 лістапада факультэт кіруючых работнікаў і спецыялістаў школ праводзіць курсы для арганізатараў упраўленняў і аддзелаў адукацыі па тэме "Кіраванне агульнаадукацыйнай школай ва ўмовах пераходу да новага зместу адукацыі". Мэта курсаў — вывучэнне тэхналогій укаранення новага зместу і тэхналогій адукацыі, мадэляванняў дзейнасці кіраўніка аддзела адукацыі, а таксама выкарыстання метадалагічных сродкаў забеспячэння дзейнасці кіраўніка.

З 7 лістапада па 10 снежня факультэт кіруючых работнікаў і спецыялістаў пазашкольных устаноў і выхавання праводзіць курсы для сацыяльных педагогаў (заліковая сесія).

З 14 лістапада па 10 снежня факультэт кіруючых работнікаў і спецыялістаў школ праводзіць курсы для намеснікаў дырэктараў сярэдніх школ па тэме "Выкарыстанне сучасных інавацыйных тэхналогій у арганізацыі педагагічнага працэсу". На курсах будуць абмяркоўвацца праблемы па псіхалагічных асновах арганізацыі навучальна-выхаваўчага працэсу ў сучаснай школе і кіраванню ім. Грунтоўна пададзены блок па выкарыстанню сучасных тэхналогій у выкладанні прадметаў.

З 14 лістапада па 18 снежня факультэт кіруючых работнікаў і спецыялістаў пазашкольных устаноў і выхавання праводзіць курсы для намеснікаў дырэктараў сярэдніх школ па выхаваўчай рабоце.

З 21 лістапада па 10 снежня факультэт кіруючых работнікаў і спецыялістаў пазашкольных устаноў і выхавання праводзіць курсы для важатых і арганізатараў дзіцячых грамадскіх арганізацый, аб'яднанняў, клубаў. У працэсе падрыхтоўкі слухачы курсаў будуць вывучаць праблемы сацыяльнага выхавання і сацыялізацыі асобы, этнапедагогіку, кіраванне выхаваўчым працэсам, параўнальную педагогіку і майстэрства педагога-выхавальніка, методыку выхаваўчай работы.

Віктар ІЎЧАНКАЎ,
вядучы эксперт упраўлення аналітычнай работы і перспектыўнага развіцця адукацыі.

## Нацыянальная педагагічная рада: абмяркоўваем стратэгію рэфармавання адукацыйнай сістэмы

### ...АЛЕ НЕ МЕХАНІЧНА

"Стратэгія рэфармавання сістэмы адукацыі" — дакумент надзвычай своечасовы. І тое, што перабудова работы нашага міністэрства знаходзіцца ў зоне ўвагі і віцэ-прэм'ера ўрада Віктара Ганчара, дае падставу спадзявацца, што на гэты раз рэфармаванне адукацыі павінна адбыцца. Што тычыцца вышэйшай школы, дык у цэлым, здаецца, тут правільна вызначаны асноўныя арыенціры. Але ж праз увесь план стратэгіі перабудовы ВНУ чырвонай ніткай, як панацэя, праходзіць, у асноўным, шматузроўневая сістэма. Нічога не маючы супраць яе, мне хацелася б перасцерагчы ад механічнага трансфармавання замежнай мадэлі адукацыі на нашы ВНУ. На гэты конт ёсць ужо і спецыяльны загад, а загады трэба выконваць. Але як можна выкарыстаць двухступеньчатасць першага ўзроўню ў педагагічнай ВНУ? Згодна загаду, першая ступень дае базавую падрыхтоўку і заканчваецца атэстацыяй. Студэнт, які не прайшоў атэстацыю, адлічваецца з ВНУ з выдачай даведкі.

Але што дасць студэнту даведка, што ён навучаўся ў педВНУ два гады? Дзе ён працаўладкуецца? Яму дазваляецца, праўда, прайсці атэстацыю па блізкай спецыяльнасці. Але ж ці такімі ўжо блізкімі з'яўляюцца, напрыклад, нашы спецыяльнасці — матэматыка і фізкультура, біялогія і мова, выяўленчае мастацтва і фізіка...

І далей. Сказаўшы "а", трэба гаварыць і "б". У праекце "Стратэгіі" ёсць такі накірунак, як развіццё універсітэцкай мадэлі вышэйшай адукацыі. Ранейшы наш урад дзеля ўваходу ў заходнюю прастору вышэйшай адукацыі, як тлумачылі тады, рэфармаваў ва універсітэты і акадэміі многія ВНУ Беларусі. Аднак пачынаць гэту справу трэба было ў першую чаргу з педагагічных ВНУ, якія маюць шырокі спектр як гуманітарных, так і агульнанавуковых акадэмічных спецыяльнасцяў. Спадзяюся, што новае кіраўніцтва міністэрства выправіць гэту памылку.

Састаўной часткай перабудовы ВНУ з'яўляецца распрацоўка яе зместу. Зараз з удзелам дэканаў у БДПУ распрацоўваюцца новыя навучальныя планы. Але ж прапануемае, напрыклад, дзяленне спецыяльных дысцыплін на асноўную і дадатковую спецыяльнасці з рэгламентаваннем гадзін (60 і 40 працэнтаў) нельга лічыць удалым, таму што ў школе такога раздзялення няма, і рэалізацыя яго ў навучальным працэсе ВНУ выклікае пэўныя цяжкасці.

Катэгарычнае "не" на ўвядзенне трэцяй спецыяльнасці нават як дадатковай (напрыклад, "матэматыка, фізіка — і інфарматыка", "біялогія, хімія — і асновы сельскай гаспадаркі"), хаця гэта і падтрымліваюць органы адукацыі, значна збядняе магчымасці новага плана і не адпавядае патрабаванням падрыхтоўкі настаўніка, у першую чаргу для сельскай школы. Пажадана таксама, каб у навучальных планах было выдзелена дастаткова часу на вывучэнне мясцовага краязнаўчага матэрыялу як сродку патрыятычнага выхавання, што адпавядае патрабаванням нашай дзяржаўнасці.

Віктар ВІНАГРАДАЎ,
рэктар Віцебскага педагагічнага інстытута,
доктар педагагічных навук,
акадэмік.

### Ад аднаго да сямі

Творчая група дашкольных работнікаў Бярозаўскага раёна пазнаёмілася з надрукаванай у "Настаўніцкай газеце" № 86 за 26 кастрычніка 1994 года "Стратэгіяй рэфармавання адукацыйнай сістэмы". Мы згодны з неабходнасцю змен у існуючай адукацыйнай сістэме.

Але выклікае пытанні тое, што дашкольная адукацыя і выхаванне ўключаюць у сябе перыяд з 3 да 6 гадоў. У нас дзіцячыя сады наведваюць дзеці ад 1,5 года. У апошні час усё больш бацькоў не аддаюць сваіх дзяцей у першы клас з 6 гадоў, дзеці выхоўваюцца ў дзіцячых садах да 7 год. Таму лічым мэтазгодным, каб раздзел "Дашкольная адукацыя і выхаванне" ўключаў у сябе перыяд ад 1 да 7 гадоў.

Творчая група дашкольных работнікаў
Бярозаўскага раёна.

### А СРОДКІ ЁСЦЬ?

Змены ў нашым сённяшнім жыцці патрабуюць змен і ў школьнай адукацыі. Вядома ж, гаварыць пра нейкія стабільныя крокі да лепшага можна ў тым выпадку, калі зменіцца эканамічная сітуацыя ў краіне. Возьмем 12-гадовы курс навучання. У цэлым я стаўлюся да яго станоўча. Пры немагчымасці працаўладкавання ўчарашніх старшакласнікаў гэты апошні год дапаможа многім больш трывала стаць на ногі, вызначыцца ў далейшым выбары. Разам з тым, улічваючы сённяшнюю эканамічную нестабільнасць, немагчыма за год-два адшукаць неабходныя матэрыяльныя сродкі. Напрыклад, у нашай школе ёсць магчымасць знайсці патрэбныя памяшканні. Але ці можна з сённяшняй зарплатай настаўніка "заманіць" у школу кваліфікаваныя кадры? Гэта пытанне вельмі сур'ёзнае, бо, згодна з распрацаванай стратэгіяй, у старэйшых класах застаецца толькі 60 працэнтаў базавага кампанента, а астатнія прадметы трэба будзе выкладаць ці не на ўзроўні вышэйшай навучальнай установы.

І калі дзяржава і ўрад тэрмінова не перагледзяць свае адносіны да адукацыі, то хутка не будзе выкладчыкаў і ў сярэдніх класах, не гаворачы пра дванаццаты.

Цяпер выкажу свае меркаванні наконт дыферэнцыяцыі навучання. У нашай школе ўжо трэці год існуе экалагічны клас — 10 "В". Сёлета адкрыўся яшчэ адзін — 8 "Б". Дзеці ідуць у гэтыя класы выключна па сваім жаданні.

Яны шмат увагі ўдзяляюць вывучэнню біялогіі, хіміі. Але як складзецца іх далейшы лёс, я не ведаю. Ці стане прэстыжнай і адпаведна добра аплачваемай спецыяльнасць "Эколаг"?

Ёсць у нас і эканамічны клас, і клас з паглыбленым вывучэннем беларускай літаратуры. Дарэчы, на беларускай мове ў нас размаўляюць не толькі першыя і другія класы, але і шостыя. Гэта наш гонар. Але ёсць у нас і такі клас (з ліку старэйшых), дзе дзеці вучыцца не могуць. Можа яны і хочуць, але асвоіць праграму ў поўнай меры не хапае здольнасцяў.

Многія ідуць у той жа 10-ы клас па прывычцы, бо не хочуць нічога мяняць у сваім жыцці. А можа бачаць, што сёння не варта губіць здароўе ў школе — і так можна жыць.

Хачу выказаць і такую прапанову. Усе работнікі школы павінны быць сацыяльна абаронены. І тэхнічкі таксама. Не параўнаць той аб'ём работы, які выконвае тэхнічка ў школе, і ў якой-небудзь іншай установе. А то хутка не будзе каму падлогу падмятаць...

Святлана САКАЛОВА,
дырэктар сярэдняй школы
№ 39 Мінска.

### БЕЗ ЧАГО НЕ БУДЗЕ ЗРУХАЎ

Рэформа, безумоўна, патрэбна, але ці не спяшаемся мы зноў?

Так, адказваць за асобу да 18 гадоў вельмі зручна ў сацыяльным плане. Але дзе матэрыяльнае забеспячэнне? Для гэтага патрэбны вялікія фінансавыя ўкладанні.

Як школа можа даць прафесію вучню, калі амаль усе настаўнікі-мужчыны пайшлі працаваць у камерцыйныя структуры, не хапае настаўнікаў замежнай мовы, фізічнага выхавання.

Увядзенне дадатковага навучання патрабуе дадатковых памяшканняў. Сёння ў нашым горадзе амаль усе школы перапоўнены, вучні займаюцца ў дзве альбо ў тры змены.

Лічым, што падрыхтоўчы перыяд у дашкольнай установе можна працягнуць да 7 гадоў, пра што сведчаць сённяшнія сацыяльныя ўмовы.

Да гэтага часу ў поўнай меры не вырашана пытанне медыцынскай атэстацыі вучняў. Шмат дзяцей з затрымкай псіхічнага развіцця. Каб выправіць гэты хіб, іх трэба перавесці ў школы, дзе яны адчувалі б сябе роўнымі.

Рэформа разлічана на вучняў, якія жадаюць вучыцца. І такіх 70%, але 30% — гэта тыя, якія вучацца пад прымусам ці асэнсавана адмаўляюць навучанне. Дыферэнцыяцыя павінна закрануць узрост дзяцей з 7 класа, калі яны ўжо хочуць звязаць навучанне з будучай прафесіяй.

Прапануем на базе НВК адкрыць класы 8, 9, 10, якія будуць займацца па праграме рэальных класаў і рыхтаваць вучняў да будучай прафесіі.

На наш погляд, трэба скараціць цыкл матэматычных прадметаў і пашырыць аб'ём гуманітарных. Перагледзець праграмы. Увесці прадметы медыка-гігіенічнага цыкла, культуралогіі.

І, вядома, за 2 гадзіны ў тыдзень не авалодаеш замежнай мовай. Школе патрэбны такія падручнікі і дапаможнікі, якія далі б магчымасць вучням засвойваць матэрыял поўнасцю на ўроку, без перагрузкі дамашнім заданнем.

Таму, мяркуем, варта актыўна прыцягваць вопытных настаўнікаў сярэдняй школы да ўдзелу ў распрацоўцы падручнікаў і праграм.

Вострая праблема — псіхалагічная служба, якая неабходна кожнай школе. Але, наколькі нам вядома, дакумент пра псіхолага ў школе ляжыць пад сукном.

Мы ўпэўнены, што без вырашэння гэтых праблем рэформа адбыцца не можа.

Калектыў мінскай сярэдняй
беларускамоўнай школы №89.

### НЕ ПАСТАВІЦЬ БЫ ВОЗ НАПЕРАДЗЕ КАНЯ

Да дванаццацігадовага тэрміну навучання, прадугледжанага стратэгіяй, я адношуся станоўча. Даўно ўзнікла патрэбнасць у рэфармаванні існуючай адукацыйнай сістэмы. Безумоўна, праця́г навучання знізіць перагружанасць вучняў, пра якую гавораць настаўнікі і бацькі, але пры ўмове, што будуць перагледжаны ўсе праграмы, трэба выключыць з іх усё непатрэбнае, многае перанесці ў раздзел "Неабавязковае", замяніўшы тым, што патрэбна кожнаму чалавеку.

Што датычыць дыферэнцыяцыі навучання, то ў поўнай меры яна магчыма пры ўмове своечасовага кадравага забеспячэння, вырашэння праблемы з падручнікамі, даведнікамі, метадычнымі дапаможнікамі. Непажадана, каб атрымалася так, што спачатку ўводзіцца новая стратэгія школьнага зместу навучання, а навуковае і матэрыяльнае забеспячэнне спазняецца на некалькі гадоў. І настаўніку прыходзіцца выкладаць ледзь не на пальцах, як здарылася ў гэтым навучальным годзе з інфарматыкай у 8 класе. Калі думаем і клапоцімся пра вучня, то не варта забываць пра настаўніка. Каб ён меў у кожным класе ўсё неабходнае для работы — падручнікі, метадычныя распрацоўкі, займальныя матэрыялы, нагляднасць.

Хацелася б выказацца і па кадравай праблеме. Вельмі вялікая роля тут належыць інстытутам і універсітэтам, якія рыхтуюць педагагічныя кадры. Гэтыя ўстановы павінны ведаць школьныя праграмы базавага ўзроўню і з паглыбленым вывучэннем матэрыялу, рыхтаваць настаўніка да працы ў розных умовах. У гэтым плане хацелася б адзначыць выпускнікоў Нясвіжскага педагагічнага вучылішча, якія добра адаптуюцца ў школьных умовах, вядуць урокі на высокім прафесійным узроўні.

Свае першыя крокі ў пазнанні навакольнага свету дзіця робіць у дашкольнай установе. Калі будзе выканана пастанова калегіі Міністэрства адукацыі ад 25 мая 1994 года, то будзе зроблены крок наперад па стварэнні нацыянальнай сістэмы дашкольнага выхавання. Падтрымліваю і падзяляю думкі, выказаныя начальнікам упраўлення дашкольнага выхавання Міністэрства адукацыі і навукі Т.І.Карасцялёвай. Разам з тым баюся, што без дадатковай фінансавай і эканамічнай падтрымкі беднасць на месцах загубіць усе добрыя намеры.

Сяргей МІЦЭВІЧ,
загадчык Валожынскага
райана.

НАПЯРЭДАДНІ

## Неўзабаве ў нашай краіне будзе 120 Сорасаўскіх настаўнікаў матэматыкі, фізікі, хіміі і біялогіі. Лаўрэаты Сорасаўскіх грантаў вызначаны супрацоўнікамі Міжнароднай Сорасаўскай праграмы адукацыі ў галіне дакладных навук

Гэта праграма пачала сваю дзейнасць у Беларусі сёлета ў маі. За кароткі тэрмін праведзена значная работа па вызначэнні настаўнікаў, якія ўносяць найбольш істотны ўклад у справу навучання і выхавання падрастаючага пакалення.

— Пачалі з апытання студэнтаў першых і другіх курсаў дванаццаці вышэйшых навучальных устаноў Беларусі, —расказвае выканаўчы дырэктар праграмы Анатоль Аляксандравіч Шуба. — У анкетах студэнты назвалі школьных настаўнікаў, урокі якіх даюць шмат новага, праходзяць захапляюча, цікава. Адзначаліся найперш высокая прафесійная падрыхтоўка педагога, здольнасць даходліва выкласці вывучаемы матэрыял, уменне наладзіць даверлівыя ўзаеміны з вучнямі, дабрата і ўважлівасць да кожнага выхаванца. Адметна, што звесткі, атрыманыя ў апытанні 1800 студэнтаў, "перакрыжоўваліся" на пяцьдзесят працэнтаў з інфармацыяй, атрыманай у Міністэрстве адукацыі і ў школах.

Настаўнікам, названым у анкетах не менш двух разоў (а гэта каля 900 чалавек), супрацоўнікі Сорасаўскай праграмы паслалі спецыяльныя "Пытальнікі", папрасілі паведаміць, колькі вучняў, падрыхтаваных педагогам за апошнія тры гады, паступілі ў вышэйшыя навучальныя ўстановы, колькі было ў настаўніка пераможцаў раённых, гарадскіх,абласных і рэспубліканскіх алімпіяд.

Улічваліся таксама выдадзеныя асабіста ці ў сааўтарстве падручнікі, дапаможнікі, навуковыя работы, іншыя кнігі, артыкулы ў перыядычным друку, стаж выкладчыцкай працы і г.д.

— На вялікі жаль, — гаворыць Анатоль Аляксандравіч, — не ўсе настаўнікі, да якіх мы звярнуліся, адказалі на нашы анкеты, што, шчыра кажучы, здзіўляе: напэўна, пісьмы проста не знайшлі сваіх адрасатаў па невядомай прычыне, хоць мы іх пасылалі пераважна на адрас школ, дзе працуюць прэтэндэнты на Сорасаўскія гранты... І ўсё ж 437 чалавек адгукнуліся на дасланыя ім "Пытальнікі". Акрамя колькасных паказчыкаў, бралася пад увагу інфармацыя пра іншыя бакі жыцця і прафесійнай дзейнасці настаўнікаў. Разумеючы, наколькі больш цяжкія ўмовы працы педагогаў у сельскай мясцовасці ў параўнанні з умовамі працы іх калег са сталіцы альбо абласнога цэнтра, мы стараліся адзначыць тых настаўнікаў з глыбінкі, якія праяўляюць творчую актыўнасць, рыхтуюць будучых студэнтаў, пераможцаў алімпіяд. Істотная роля пры адборы лепшых адводзілася таксама іх метадычнай, пошукава-даследчыцкай дзейнасці. 174 педагогі набралі больш як 200 балаў. Яны былі выдзелены ў групу лідэраў, з якой у выніку аналізу анкетавання мы выбралі 120, на наш погляд, найбольш дастойных атрымання Сорасаўскага гранта настаўніка сярэдняй школы і прысваення звання Сорасаўскі настаўнік.

Рэдакцыя мяркуе апублікаваць спіс лаўрэатаў, калі, канечне ж, супрацоўнікі Міжнароднай Сорасаўскай праграмы адукацыі ў галіне дакладных навук палічаць гэта мэтазгодным. А сёння паведамім толькі агульную інфармацыю, прадастаўленую нам выканаўчым дырэктарам праграмы. У спісе пераважна выкладчыкі фізікі і матэматыкі, менш хімікаў і біёлагаў. 60 працэнтаў — жанчыны. Узроставы дыяпазон дастаткова шырокі, хоць большасць настаўнікаў — з вялікім вопытам педагагічнай работы. Пераважаюць мінчане (35%), затым ідуць педагогі з Мінскай (16,7%), Брэсцкай (15,8%), Віцебскай (12,5%), Гомельскай (8,3%), Гродзенскай (6,7%) і Магілёўскай (5%) абласцей.

Так што на наступным тыдні, мажліва, мы зможам павіншаваць уладальнікаў Сорасаўскіх грантаў, якія атрымаюць матэрыяльнае ўзнагароджанне за педагагічны талент, прафесійнае майстэрства і вернасць справе, якой аддаюць свае веды і сілы.

НА ЗДЫМКУ: выканаўчы дырэктар Сорасаўскай праграмы адукацыі ў галіне дакладных навук А.А.Шуба і кіраўнік падпраграмы "Падтрымка найбольш каштоўных дасягненняў настаўнікаў у сярэдніх школах" Н.І.Поліна аналізуюць інфармацыю аб прэтэндэнтах на Сорасаўскія гранты.

Фота Юрыя БОНДАРАВА.



# НГ-ІНФАРМ

НЕ ЎСЁ ТАК І ДРЭННА

## САМІ ВЫРАБЛЯЮЦЬ, САМІ ПРАДАЮЦЬ

**Вось ужо паўгода у Вілейскім ПТВ-124 прыборабудаўнікоў працуе свой магазін. І прадаюць у ім тавары, выробленыя ў сваім вучылішчы — гэта ўсялякія рэчы хатняга ўжытку, інструменты, прыстасаванні, перакульнікі для аўтамабіляў "Масквіч" і "Жыгулі", а таксама дрэваапрацоўчыя станкі.**

Асабліва высокім попытам у пакупнікоў карыстаюцца дрэваапрацоўчыя станкі. На іх можна выконваць тры аперацыі: струганне, пілаванне і свідраванне. У залежнасці ад жадання заказчыка тут могуць вырабляць станкі розных габарытаў. Цікава, што ўсе вырабы сканструяваны ўласнымі сіламі — майстрамі вытворчага навучання.

Каштоўна, што выпуск названай прадукцыі прадугледжвае не толькі камерцыйныя мэты, але з'яўляецца і часткай навучальнага працэсу.

Ёсць у вучылішчы і іншыя навацыі, якія народжаны рынкавай эканомікай. Тут ужо другі год дзейнічае тэхнічны клас, у якім праходзяць навучанне тыя з вілейскіх сямікласнікаў, для якіх школа па нейкіх прычынах стала чужой і нелюбімай. У вучылішчы іх спакваля прывучаюць да тэхнікі, знаёмяць з устройствам станкоў, з электрамантажнай справай і даюць адукацыю ў аб'ёме дзевяці класаў. Адным словам, адаптуюць да жыцця, даюць магчымасць знайсці сябе.

Такім чынам, падлеткі ўшчыльную набліжаюцца да пэўнай прафесіі і атрымліваюць шанц працягваць адукацыю. Акрамя таго, тут яны бясплатна харчуюцца ў час абеду. А ўсё разам узятае — гэта якраз тое, што і патрэбна ў цяперашні нялёгкі час.

Віктар ПЯТРОЎ.

КАНФЕРЭНЦЫІ

## Агляд інжынерна-педагагічнай адукацыі

**У Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі адбылася міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Інжынерна-педагагічная адукацыя: гісторыя, праблемы, перспектывы", на якой усебакова прааналізаваны трыццацігадовы вопыт станаўлення і развіцця інжынерна-педагагічнай адукацыі, яе сучасныя задачы і шляхі развіцця.**

Канферэнцыя станоўча ацаніла работу Беларускага політэхнічнага інстытута, які ініцыяваў падрыхтоўку спецыялістаў такога профілю, распрацаваў і паслядоўна развівае пакладзеныя ў аснову прынцыпы інжынерна-педагагічнай адукацыі, яе змест і навучальна-метадычнае забеспячэнне. Вопыт БПІ стаў асновай, на якой базіраваўся працэс падрыхтоўкі інжынераў-педагогаў больш чым у трыццаці ВНУ Расіі, Украіны, Літвы, Узбекістана. За гэты перыяд падрыхтавана звыш трох тысяч інжынераў-педагогаў, большасць якіх сёння плённа займаецца педагагічнай і навуковай дзейнасцю, многія вылучаны на кіраўнічую работу ў сістэме прафесійнай адукацыі краіны, звыш сарака былых выпускнікоў маюць вучоныя ступені дактароў і кандыдатаў навук.

Канферэнцыя распрацавала навукова-практычныя рэкамендацыі па ўдасканаленні інжынерна-педагагічнай адукацыі ў Беларусі і накіравала іх у адпаведныя інстанцыі на рэагаванне.

На ўрачыстым сходзе і памятнай сустрэчы выпускнікоў інжынерна-педагагічнага факультэта са словамі прывітання выступілі рэктар акадэміі М.І.Дзямчук, акадэмік А.У.Раман, прадстаўнікі Беларускага агратэхнічнага універсітэта, Мазырскага педагагічнага інстытута, выпускнікі, выкладчыкі і студэнты інжынерна-педагагічных спецыяльнасцяў акадэміі. У зале панавала святочная атмасфера, якую як нельга лепш дапаўняла цудоўная музыка ў выкананні народнага струннага ансамбля, а таксама выступленні фальклорнага і танцавальнага ансамбляў.

Віктар ЖАК,
загадчык кафедры
Беларускай дзяржаўнай
політэхнічнай акадэміі.

НАВІНЫ З ПТВ

## ТРЫ МІЛЬЁНЫ Ў КІШЭНЮ ВУЧЫЛІШЧА

**Ад рэальнага да вышэйшага — такі шлях прайшло за пяцьдзесят гадоў існавання Мінскае вышэйшае прафесійнае вучылішча лёгкай прамысловасці. За гэтыя гады ўстанова падрыхтавала больш як 12 тысяч рабочых кадраў, якія зараз паспяхова працуюць на базавых прадпрыемствах.**

Кіраўніцтва вядомых прадпрыемстваў абутковага вытворчага аб'яднання "Прамень", скургалантарэйнай фабрыкі, работнікі Міністэрства адукацыі і ўпраўлення адукацыі Мінгарвыканкама, Фрунзенскага райвыканкама, гарадскога інстытута ўдасканалення настаўнікаў і многія многія іншыя госці прыйшлі на вечарыну ў ВПВ, прысвечаную яго 50-гадоваму юбілею.

У адрас калектыву вучылішча, педагогаў-ветэранаў, маладых работнікаў прагучала мноства цёплых слоў падзякі за іх працу, былі ўручаны ганаровыя граматы і значкі "Выдатнік адукацыі" лепшым выкладчыкам і майстрам вытворчага навучання. А генеральны дырэктар "Промня" Вячаслаў Вернікоўскі падараваў вучылішчу ажно тры мільёны рублёў.

## ХОЧАШ — ФУТРА, А ХОЧАШ — ПАНТОФЛІ

**На два восеньскія кірмашы, якія прайшлі ў Гомелі і ў Жлобіне, выставілі сваю прадукцыю навучэнцы Жлобінскага ПТВ № 143.**

Дзіцячыя і дарослыя футры, хатнія пантофлі, мяккія цацкі раскупляліся з задавальненнем, вырабы былі вельмі ж прыгожыя і каштавалі на трыццаць працэнтаў танней, чым у магазіне.

А вучылішчны бюджэт папоўніўся на 2,5 млн. рублёў.

Ала КЛЮЙКО.

## "Сіламі настаўнікаў задача сацыяльнай абароны моладзі і дзяцей нідзе ў свеце не вырашаецца"

**Аб мерах па падтрымцы сацыяльнай педагогікі, псіхалогіі і сацыяльнай работы ў Рэспубліцы — так было сфармулявана пытанне, якое разглядалася на чарговым пасяджэнні Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны.**

— Нібыта ўсе разумеюць важнасць сацыяльнага аспекту ў адукацыі і культуры, ролі сацыяльнай педагогікі і сацыяльнага педагога ў выхаваўчым працэсе, — сказаў, пачынаючы размову, старшыня Камісіі Ніл Гілевіч. — Аднак справа з месца не кранаецца. І нам сёння патрэбна вельмі добра падумаць, як зрабіць гэта. Час таго патрабуе. Нас і тых, хто прыйдзе пасля нас, чакае вялікая работа.

Жыццё наша карэнным чынам змянілася. Нестабільнасць у грамадстве, эканамічны разлад, зніжэнне жыццёвага ўзроўню большасці насельніцтва парадзілі злачыннасць, якая з кожным годам расце і амалоджваецца, становіцца больш жорсткай. Прагрэсуюць наркаманія, бездухоўнасць, разбэшчанасць. З'явіліся беспрацоўныя, а сярод іх і тысячы беспрытульных падлеткаў. Падае прэстыж ведаў. Усё гэта, адназначалі выступаючыя, нас сёння не можа не хваляваць. Аднак чаму паранейшаму абвінавачваем ва ўсім гэтым школу, настаўніка, праваахоўныя органы? Так, апошнім часам яны, безумоўна, здаюць свае пазіцыі і мы можам прад'явіць да іх мноства канкрэтных прэтэнзій. Аднак толькі гэтымі сіламі вырашыць праблему, якая востра паўстала ў грамадстве, мы не зможам. Працэс выхавання сёння значна ўскладніўся.

Сіламі настаўнікаў, падкрэсліў у сваім выступленні член Камісіі Аляксей Ніканчук, задача сацыяльнай абароны моладзі і дзяцей нідзе ў свеце не вырашаецца. Уласна кажучы, яна не вырашалася ў нас і ў былым Савецкім Саюзе. Сацыяльна-педагагічную функцыю выконвала магутнейшая ідэалагічная машына, якая трымала ў сваіх руках не толькі сам працэс выхавання, але ўсё тое, што было ёй падпарадкавана: пачынаючы ад мікрараёна маленькага калектыву, сям'і, дзіцячага грамадскага аб'яднання і г.д. Калі гэтай магутнай машыны не стала, выявілася, што ў нас няма ні структурна-арганізацыйных, ні кадравапрафесійных магчымасцяў для правядзення выхаваўчай работы не толькі ў сям'і, мікрараёне, а нават і ў школе і пазашкольнай установе. Раней кожны прадстаўнік інтэлігенцыі — і асабліва настаўнік — быў ідэалагічным байцом партыі. Грамадская работа ўспрымалася як пачэсны абавязак. Адзін з асноўных паказчыкаў станоўчай характарыстыкі, без якой не вырашалася ні кадравае, ні жыллёвае, ні іншыя пытанні. Усё гэта спрашчала арганізацыю выхаваўчай работы, зніжала патрабавальнасць, часам, да прымітыву, аддавала перавагу правядзенню масавых мерапрыемстваў. У такіх умовах вострай патрэбы ў стварэнні інстытута прафесійных выхавацеляў, сацыяльных педагогаў не было.

Адной з прычын выхаваўчага разладу многія сёння бачаць у адсутнасці сувязі сям'і і школы. Але хто павінен яе ажыццяўляць? Класны кіраўнік? Па-першае, даплата за класнае кіраўніцтва сімвалічная, па-другое — ён спецыяліст па выкладанні пэўнага прадмета і да высокапрафесійнага правядзення выхаваўчай работы не падрыхтаваны, а па-трэцяе — юрыдычна беспадстаўна абавязваць яго выконваць увесь аб'ём неабходнай работы з бацькамі вучняў і насельніцтвам мікрараёна. Звычайнае інфармаванне бацькоў аб паводзінах сына ці дачкі, як і паведамленне аб гэтым па месцы іх працы, што некаторыя схільны лічыць за работу з бацькамі і грамадскасцю, мае столькі маральна-этычных і выхаваўчых мінусаў, што наўрад ці можа з усёй паўнатой адносіцца да разраду педагагічных. Не дзейсны і педагагічны ўсенавуч бацькоў, бо нават і ў тыя лепшыя часы ён існаваў больш дзеля планаў і справаздач, чым дзеля вынікаў. Бацькі з так званых груп рызыкі ў ім, як правіла, не ўдзельнічалі. У цяперашніх умовах нельга рабіць стаўку на бацькоўскія і настаўніцкія патрулі. Бо, па-першае, справа гэта добраахвотная, а па-другое, педагагічнага ў гэтым зноў жа вельмі мала.

Відавочна адно, канстатавалі выступоўцы: час патрабуе новых падыходаў. Патрэбны кваліфікаваныя выхавацелі-канструктары ўзору жыцця юнай змены, якая ў працэсе супрацоўніцтва, сумеснай дзейнасці знойдзе правільныя арыенціры ў гэтым супярэчлівым свеце, для якой мараль стала б рэгулятарам паводзін ва ўсіх сферах жыцця — у працы, навуцы, палітыцы, сямейным жыцці. Сёння нам неабходны педагогі, якія б змаглі ачалавечыць, гуманізаваць сацыяльную дапамогу усім катэгорыям насельніцтва, патрэбны спецыялісты, якія здолелі б на належным прафесійным узроўні вырашаць самыя разнастайныя пытанні сацыяльнай адаптацыі, рэабілітацыі, псіхадыягностыкі, псіхатэрапіі.

Аб тым, што ўжо робіцца ў гэтым накірунку, было што расказаць прадстаўніку Міністэрства адукацыі і навукі Георгію Бутрыму. У краіне, зазначыў ён, распачата перападрыхтоўка кадраў з ухілам на сацыяльную педагогіку ў Інстытуце павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі. Падрыхтоўку сацыяльных педагогаў пачалі Мінскі універсітэт культуры, Брэсцкі педінстытут і Беларускі дзяржуніверсітэт. Сусветны вопыт сведчыць, падкрэсліў ён, што менавіта такі шлях падрыхтоўкі спецыялістаў сацыяльна-педагагічнага накірунку з'яўляецца найбольш рацыянальным і выніковым.

Намеснік міністра сацыяльнай абароны Пётр Сікорскі акрэсліў праблемы, якія сёння перажываюць супрацоўнікі "яго" галіны. Дарэчы, сёння ў ёй задзейнічала 18 тысяч чалавек. Асноўная праблема, якую тут перажываюць — гэта недахоп фінансавых сродкаў. Цікавы факт: нядаўна набрана толькі першая група навучэнцаў для падрыхтоўкі сацыяльных работнікаў. Спецыялістаў рыхтуе фінансава-эканамічны тэхнікум.

Слушныя прапановы выказала рэктар Мінскага універсітэта культуры Ядвіга Грыгаровіч. Яна прапанавала стварыць міжгаліновы каардынацыйны цэнтр сацыяльнай педагогікі і сацыяльнай работы пры Кабінеце Міністраў ці асабіста пры віцэ-прэм'еры.

Распрацаваны праект пастановы з дванаццаці пунктаў, якія будуць удакладняцца, перапрацоўвацца. Але першы пункт яе, мяркуючы па размове, пэўна, застанецца: падтрымаць ініцыятыву і аказваць садзеянне развіццю сацыяльнай педагогікі ў Рэспубліцы Беларусь.

Святлана БЕНЬ.

## ТОЛЬКІ ФАКТЫ

Выканкам Брэсцкага абласнога Савета зацвердзіў Палажэнне аб парадку назначэння і выплаты імянных стыпендый навучэнцам сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў.

* * *

У Бараўлянах пад Мінскам заканчваецца будаўніцтва вёскі для дзяцей-сірот. Каля 120 дзяцей будуць жыць у дамах сумесна з прыёмнымі маці, набор якіх будзе ажыццяўляцца на конкурснай аснове.

* * *

На ўласных аўтамабілях вярнуліся пасля 4-месячнай практыкі ў Германіі студэнты Гродзенскага сельскагаспадарчага інстытута.

* * *

Больш як 18 тысяч беларускіх дзяцей ва ўзросце да 16 гадоў — інваліды.

* * *

Гродзенскія настаўнікі збіраюць подпісы пад зваротам да Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі, у якім просяць падтрымаць працэс беларусізацыі сярэдняй адукацыі.

* * *

Прэзідыум Савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі і праўленне Асацыяцыі прафсаюзных арганізацый студэнтаў вышэйшых і навучэнцаў сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў Беларусі прынялі рашэнне аб прысуджэнні студэнцкіх стыпендый прафсаюзаў на 1994-95 навучальны год.

Міхась АНІСЕНКА.

ПРАВЕРЦЕ ПРАВІЛЬНАСЦЬ АФАРМЛЕННЯ АБАНЕМЕНТА

**На абанеменце павінен быць пастаўлены адбітак касавай машыны.**

**Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце прастаўляецца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).**

---

**Для афармлення падпіскі на газету або часопіс, а таксама для пераадрасавання выдання бланк абанемента з даставачнай карткай запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, адпаведна ўмовам, выкладзеным у каталогах.**

**Запаўненне месячных клетак пры пераадрасаванні выдання, а таксама клеткі "ПВ-МЕСЦА" робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.**

А ЯК ЗА МЯЖОЙ?

## Полівалентная школа Малдовы

Праблемам развіцця прафесійнай адукацыі ва ўмовах рынкавай эканомікі прысвяціў свае лекцыі ў Мінскім гарадскім Інстытуце ўдасканалення настаўнікаў кандыдат тэхнічных навук, загадчык кафедры прафтэхадукацыі Інстытута псіхалогіі і педагогікі Малдовы Георгій РУДЗІК.

Аб станаўленні прафесійнай адукацыі ў Малдове, аб яе новых адукацыйных формах, аб праблемах яе фінансавання ён расказвае нашаму карэспандэнту Але КЛЮЙКО.

**— Георгій Аляксеевіч, напэўна, вы ведаеце, што ў нас вядзецца падрыхтоўка Закона аб прафесійнай адукацыі. Закон аб адукацыі ў Беларусі ўжо дзейнічае. Ці прыняты і ў Малдове адукацыйныя заканадаўчыя акты?**

— Безумоўна, мы ў курсе спраў нашых беларускіх калег. Знаёмы і з праектам Закона, які быў прадстаўлены Інстытутам прафесійнай адукацыі для правядзення намі яго экспертызы.

Але наконт прыняцця Законаў у нас існуе іншае меркаванне. Я лічу вялікай заслугай нашай педагагічнай навукі тое, што мы змаглі пераканаць парламент і ўрад пакуль не прымаць Закон аб адукацыі. Закон не можа жыць без вызначэння асноўнай ідэі і шляхоў яе рэалізацыі. Таму перш-наперш вучоныя Малдовы заняліся распрацоўкай Канцэпцыі адукацыі, гэта значыць вызначэннем канструктыўнага прынцыпу яе развіцця. Зараз Канцэпцыя ўжо прынята. І толькі на яе базе мы пачалі распрацоўваць Закон. Наконт выдзялення Закона аб прафесійнай адукацыі ў асобны, у нас зноў жа свая думка. Трэба спачатку прымаць канцэпцыю прафесійнай адукацыі.

**— На ваш погляд, якімі прынцыпамі павінна кіравацца сённяшняя прафтэхадукацыя?**

— У першую чаргу, прафтэхадукацыя, як і раней, павінна служыць чалавеку, каб ён меў магчымасць атрымаць прафесію і стаць гаспадаром свайго лёсу. Другое, яна не павінна ісці ў разрэз з эканамічным укладам краіны. У гэтым плане абвастраецца шмат праблем па карэкціраванні і прагназаванні адукацыі. Зараз большасць устаноў працуе ўхаластую. Іх выпускнікі ў асноўным не запатрабаваны вытворчасцю. Атрымоўваецца, што дзяржаўныя грошы ляцяць на вецер, таму што кошт навучання студэнта ў тры разы вышэй, чым школьніка. Зараз ў нас ужо апрабуецца мадэль, якая дапаможа складаць прагноз па колькасці патрэбных кадраў па кожнай прафесіі і карэкціраваць навучанне. Кожная ўстанова прафтэхсістэмы ў Малдове па рашэнні Міністэрства адукацыі ў бліжэйшы час будзе мець сваю праграму развіцця і кіравацца спецыяльнай метадалогіяй, у якой будуць выкладзены гэтыя патрабаванні. Выкананне такой праграмы — справа калектыву навучальнай установы на чале з яе дырэктарам. На жаль, сённяшні ўзровень сярэдняга кіраўніцкага апарату нізкі, бо кіраўнікі ПТВ раней былі толькі выканаўцамі дырэктыў зверху.

А зараз ім прыйдзецца стаць гаспадарамі сваёй установы, умела ёю кіраваць. А дапаможа ў гэтым нашым дырэктарам чатырохцыклавае павышэнне кваліфікацыі.

**— Якая адукацыйная форма з'яўляецца сёння асноўнай у сістэме прафесійнай адукацыі Малдовы?**

— Гэта, так званая полівалентная школа. Адразу ўдакладню, што яна не навучальная ўстанова, а адукацыйны ўзровень, які прыраўноваецца да ліцэйнага навучання. У сістэме полівалентнай школы падрыхтоўка праходзіць у тры ступені, што выконвае функцыю бесперапыннасці. Пасля першай ступені навучэнцы вызначаюцца ў прафесійнай арыентацыі, атрымоўваюць рабочую прафесію масавай вытворчасці і пэўны ўзровень агульнаадукацыйнай падрыхтоўкі.

Толькі той, хто здаў неабходны нарматыў, можа перайсці на другую ступень навучання. За паўтара года на ёй навучэнцы атрымаюць некалькі прафесій шырокага профілю з ухілам на быт і сервіс і базавыя веды па прадпрымальніцтве і малым бізнесе.

Трэцяя ступень дае адукацыю тэхніка і павышаныя эканамічныя веды ў сферы арганізацыі сярэдняга бізнесу. Заканчэнне трэцяй ступені ў нас прыраўноўваецца да сярэднетэхнічнай адукацыі — тэхнікума. Але гэта не дае права паступіць адразу ў ВНУ. Як абумоўлена ў нашай адукацыйнай канцэпцыі, усе, хто жадае вучыцца ў ВНУ, павінны здаць так званы бакалаўрыят для допуску ў вышэйшыя ўстановы. Той, хто паспяхова здаў такі экзамен, мае права пайсці на вышэйшую ступень. Але гэта не значыць, што ён будзе паступаць без уступных экзаменаў. Такі бар'ер перад ВНУ створаны для таго, каб пазбегнуць прыёму выпадковых людзей, альбо тых, хто купіў адзнакі за грошы. Такі метад адбору даўно выкарыстоўваецца ў суседняй Румыніі і іншых краінах.

**— А на якой базе будзе ствараецца полівалентная школа. Мажліва па-новаму будуць звацца і навучальныя ўстановы?**

— Для гэтай мэты выкарыстаем базы ПТВ і тэхнікумаў. У залежнасці ад магчымасцяў гэтых устаноў, ад іх матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння, інжынерна-педагагічнага патэнцыялу размяркуюцца і адукацыйныя ступені полівалентнай школы. У адной установе могуць быць адразу тры ступені, у другой — дзве, у трэцяй — толькі адна і гэтак далей.

Сапраўды, слова ПТВ будзе выключана з ужывання. Пагадзіцеся, пэтэвушнік для нас доўга быў школьным ізгоем, чалавекам другога гатунку. Таму і будзем у сябе выкарыстоўваць паняцце полівалентнай школы першай, другой і трэцяй ступеняў.

**— Назву ўстановы змяніць намнога лягчэй, чым змяніць у корані змест навучання і яе якасць.**

— Сапраўды, гэта так. Рынкавая эканоміка значна павышае адукацыйны цэнз. На рынку працы заўсёды ў высокай цане толькі прафесіяналізм, які, безумоўна, дасягаецца адпаведнай якасцю падрыхтоўкі. У гэтым накірунку мы можам многаму навучыцца ў замежных краін. Педагогіка Захаду зарынтавана на тое, каб навучальная ўстанова стала палігонам развіцця здольнасцяў і схільнасцяў маладога чалавека, станаўлення яго як асобы. А для гэтага трэба ўжываць сучасныя метады навучання. Піраміда Сораса, якую я дэманстраваў сваім слухачам, яскрава паказвае эфектыўнасць навучання ад выкарыстання розных яго форм і сродкаў. Так, эфект вуснага выкладання, якое, дарэчы, дамінуе сёння ў нашай адукацыі, складае толькі 5%, што пацвярджае яго ўстарэласць. Таму неабходна шукаць новыя, больш сучасныя метады выкладання, гэтым мы і займаемся сёння ў Малдове.

**— Георгій Аляксеевіч, пры пераходзе да рыначных адносін значна абвастрылася праблема фінансавання адукацыі. Ці ёсць шляхі больш эфектыўнага выкарыстання ўжо існуючых фінансавых сродкаў?**

— На маю думку, грошай на адукацыю сёння больш-менш хапае, толькі размяркоўваць іх трэба па-гаспадарску. Зжылі сябе многія адукацыйныя структуры. Напрыклад, сістэма павышэння кваліфікацыі. Сёння ўсе развітыя краіны перайшлі на тэхналагізацыю педагогікі, а ў нас па-ранейшаму існуе гэты адукацыйны лікбез. Дарэчы, мы аб'ядналі інстытут удасканалення з усімі інстытутамі павышэння кваліфікацыі ў адзіную установу бесперапыннай адукацыі.

У нас ужо назіраецца тэндэнцыя да дэцэнтралізацыі гэтага працэсу. Фінансавыя сродкі выдзяляюцца навучальным установам на павышэнне кваліфікацыі, і навучанне праводзіцца па альтэрнатыўных праграмах. Каб педагог мог самастойна выбраць, у каго яму павышаць сваю кваліфікацыю.

Дарэчы, распрацоўваем мы і альтэрнатыўныя сістэмы атэстацыі, якія процістаяць існуючай манаполіі ў сістэме ацэнкі ведаў.

Скараціў бы я і штат НДІ педагогікі. У ім можна пакінуць толькі фундаментальны сектар педагагічнай навукі, а астатнюю частку даследчай работы перадаць творчым калектывам. І, увогуле, мы павінны настройвацца на платнае навучанне ў адукацыйных установах. Мы ўжо плацім за навучанне музыцы, замежнай мовы, спорту.

Міжнародная практыка пацвярджае, што ў большасці сваёй насельніцтва аддае перавагу платнаму, больш якаснаму навучанню. У США, напрыклад, толькі 20% дзяцей навучаюцца ў дзяржаўных адукацыйных установах.

Безумоўна, мы павінны рэгулярна падвяргаць нашы даследаванні параўнальнаму аналізу з сусветнай практыкай і пэўна выкарыстоўваць знешнюю экспертызу. Чым больш знешніх экспертаў, тым якасней работа. Дарэчы, на захадзе на экспертызу даследчых праектаў выдзяляецца да 30% фінансавых сродкаў. Экспертызу сваіх навуковых работ практыкуем і мы. Так, праект Канцэпцыі прывозілі на экспертызу ў Інстытут прафесійнай адукацыі Беларусі, і вельмі ўдзячны сваім беларускім калегам за аказаную дапамогу. Думаю, што гэта супрацоўніцтва і далей будзе доўжыцца на карысць адукацыйнай навукі, не залежачы ад мяжы, якая падзяляе нашы дзяржавы.

# НГ-ІНФАРМ

## У галіновым прафсаюзе

Нядаўна прэзідыум Рэспубліканскага камітэта галіновага прафсаюза разгледзеў пытанне "Аб выніках атэстацыі педагагічных работнікаў устаноў адукацыі Віцебскай вобласці ў 1993-94 навучальным годзе". Абагульніўшы шматлікія прапановы работнікаў галіны, прафсаюзных камітэтаў, прэзідыум БРК прапанаваў на разгляд Міністэрства адукацыі і навукі дапаўненні і змяненні ў дзеючыя дакументы па атэстацыі педагагічных работнікаў:

— прадаставіць права педагагічным работнікам здаваць кваліфікацыйны экзамен без накіравання атэстацыйных камісій;

— адмяніць кваліфікацыйны экзамен на I катэгорыю і замяніць яго субяседаваннем у раённай або школьнай астэстацыйнай камісіі (па выбары атэстуемага);

— распрацаваць адзіныя патрабаванні да зместу кваліфікацыйнага экзамену, прадугледзець не менш чым тры формы яго здачы. Права выбару формы здачы прадаставіць атэстуемаму;

— прадаставіць права кваліфікацыйнай камісіі, са згоды атэстуемага, прымаць рашэнне аб здачы экзамену на катэгорыю, якая адрозніваецца ад катэгорыі, указанай у накіраванні;

— вызначыць парадак атэстацыі непедагагічных работнікаў устаноў адукацыі (медыкі, бібліятэкары і іншыя);

— распрацаваць узоры неабходных дакументаў па атэстацыі педагогаў, патрабаванні да іх захоўвання.

Прэзідыум папрасіў улічыць указаныя прапановы пры зацвярджэнні пастаянна дзеючага Палажэння аб атэстацыі педагагічных работнікаў, распрацоўка якога прадугледжана галіновым Пагадненнем на 1994 год.

БРК галіновага прафсаюза таксама звярнуўся у Міністэрства адукацыі і навукі з пісьмом, у якім гаворыцца, што ў сувязі з пастановай Кабінета Міністраў ад 16 верасня 1994 года №76 "Аб заключэнні кантрактаў з кіраўнікамі дзяржаўных прадпрыемстваў, аб'яднанняў, арганізацый і ўстаноў" прадугледжана ў месячны тэрмін паўсюдна правесці заключэнне кантрактаў з кіраўнікамі ўсіх устаноў і арганізацый, да ліку якіх адносяцца і кіраўнікі навучальных устаноў. Аднак паспяховае правядзенне гэтай работы без уліку галіновай спецыфікі ў сярэдзіне навучальнага года вельмі неспрыяльна адаб'ецца на дзейнасці навучальных устаноў, нанясе шкоду справе выхавання і навучання, створыць праблемы з працаўладкаваннем вызваляемых работнікаў.

Рэспубліканскі камітэт прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі выказвае сваю нязгоду з правядзеннем заключэння кантрактаў з кіраўнікамі ўстаноў адукацыі да заканчэння навучальнага года і прапануе Міністэрству адукацыі і навукі:

1. Увайсці з прапановай у Кабінет Міністраў аб пераносе тэрмінаў заключэння кантрактаў з кіраўнікамі ўстаноў адукацыі на чэрвень—ліпень 1995 года.

2. Падрыхтаваць з удзелам прафсаюза метадычныя рэкамендацыі аб парадку заключэння кантрактаў з кіраўнікамі ўстаноў адукацыі.

Як вядома, з першага студзеня 1994 года рэгуляванне заработнай платы педагагічных работнікаў сістэмы адукацыі ажыццяўляецца ў адпаведнасці з артыкулам 34 Закона "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь", які прадугледжвае, што сярэдняя стаўка заработнай платы педагагічных работнікаў устанаўліваецца не ніжэй за сярэднюю заработную плату служачых у прамысловаці, а прафесарска-выкладчыцкага складу вышэйшых навучальных устаноў — мінімум у паўтара раза вышэй за гэты ўзровень.

Але праведзены Рэспубліканскім камітэтам прафсаюза аналіз статыстычных даных і дзеючых ставак заработнай платы педагагічных работнікаў, службовых акладаў прафесарска-выкладчыцкага складу за I, II і III кварталы 1994 года (афіцыйна зацверджаная методыка разліку сярэдняй стаўкі адсутнічае), паказвае, што ні ў адным квартале б.г. артыкул 34 Закона аб адукацыі ў частцы гарантаванага ўзроўню аплаты працы выкананы не быў (табліца №1).

У сувязі з гэтым старшыня галіновага прафсаюза Т.І.Чобатава па даручэнні прэзідыума БРК звярнулася ў Кабінет Міністраў з заявай, у якой канстатуецца, што меры, якія прымаліся ўрадам, былі вельмі недастатковымі і не забяспечылі выкананне Закона.

Больш таго, у бягучым годзе не толькі стаўка, але нават сярэдняя заработная плата педагагічных работнікаў не дасягнула сярэдняй заработнай платы служачых у прамысловасці (табліца №2), а ў трэцім квартале склала толькі 58,8 працэнта. Такі ўзровень аплаты працы прывёў да збяднення педагагічных работнікаў, узмацнення адтоку з галіны спецыялістаў і садзейнічае нарастанню разбуральных працэсаў у галіне, якая да гэтай пары стабільна працавала, зніжэння якасці адукацыі.

На падставе вышэйвыкладзенага прэзідыум БРК просіць прыняць меры, якія б забяспечвалі выкананне артыкула 34 Закона аб адукацыі ў частцы гарантаванага ўзроўню аплаты працы педагагічных работнікаў і прафесарска-выкладчыцкага саставу ў IV квартале 1994 года і ажыццявіць кампенсацыйныя выплаты за першы, другі і трэці кварталы.

У выпадку непрыняцця мер прафесійны саюз пакідае за сабой права вынесці гэтае пытанне на рэспубліканскую канферэнцыю работнікаў адукацыі для абмеркавання наступных калектыўных дзеянняў.

Табліца №1

**ПАРАЎНАЛЬНЫЯ ДАНЫЯ**
**аб памерах сярэдняй стаўкі заработнай платы педагагічных работнікаў, прафесарска-выкладчыцкага складу і сярэдняй заработнай платы служачых у прамысловасці ў 1994 годзе**

| | I кв. | II кв. | III кв. | у тым ліку верасень |
|---|---|---|---|---|
| 1. Сярэдняя зарплата служачых у прамысловасці | 302702 | 673306 | 141799 | 163160 |
| 2. Сярэдняя стаўка заработнай платы педагагічных работнікаў у рублях | 167000 | 300000 | 60000 | 60000 |
| у працэнтах ад зарплаты служачых у прамысловасці | 55,2 | 44,6 | 42,3 | 36,8 |
| 3. Сярэдняя стаўка заработнай платы прафесарска-выкладчыцкага саставу ў рублях | 290000 | 500000 | 100000 | 100000 |
| у працэнтах ад зарплаты служачых у прамысловасці | 95,8 | 74,3 | 70,5 | 61,3 |

**Заўвага:** у адпаведнасці з абзацам 7 артыкула 34 Закона аб адукацыі сярэдняя стаўка заработнай платы педагагічных работнікаў павінна складаць не менш як 100 працэнтаў сярэдняй заработнай платы служачых у прамысловасці, а прафесарска-выкладчыцкага саставу — не ніжэй як 150 працэнтаў гэтага ўзроўню.

Табліца №2

**ПАРАЎНАЛЬНЫЯ ДАНЫЯ**
**аб размерах сярэдняй заработнай платы педагагічных работнікаў, прафесарска-выкладчыцкага складу і служачых у прамысловасці ў 1994 годзе**
**(на аснове даных Дзяржкамстата)**

| | I кв. | II кв. | III кв. |
|---|---|---|---|
| 1. Сярэдняя заработная плата служачых у прамысловасці ў рублях | 302702 | 673306 | 141799 |
| 2. Сярэдняя заработная плата педагагічных работнікаў у рублях | 236541 | 506989 | 83453 |
| у працэнтах да зарплаты служачых у прамысловасці | 78,1 | 75,3 | 58,8 |
| 3. Сярэдняя заработная плата прафесарска-выкладчыцкага складу ў рублях | 296504 | 601348 | 102739 |
| у працэнтах да зарплаты служачых у прамысловасці | 98 | 89,4 | 72,5 |

ЧЫТАЧЫ — ПРА КНІГІ

# КЛІО ЛЮБІЦЬ ПРАЎДУ І ДАКЛАДНАСЦЬ

Добра вядома: жыццё грамадства немагчыма без ведання сваёй гісторыі. Таму ёю цікавіліся заўсёды. Але бываюць перыяды, калі пільная ўвага да мінулага асабліва рэзка ўзрастае. Гэта адбываецца, калі перад грамадствам узнікаюць задачы, вырашэнне якіх звязана з радыкальнымі пераменамі ў яго жыцці. Менавіта такі этап перажывае сёння Беларусь. Адсюль і небывалая цікавасць да мінулых стагоддзяў. Людзі жадаюць ведаць сваё мінулае без "белых плям".

Менавіта з такім жаданнем адкрыў я навучальны дапаможнік "Гісторыя Беларусі", выпушчаны нядаўна ў свет выдавецтвам навукова-камерцыйнай фірмы "Экаперспектыва" пад рэдакцыяй А.Ігнаценкі і Я.Несцяровіча. Гэта кніга разлічана на настаўнікаў, вучняў сярэдніх школ, абітурыентаў, усіх, хто цікавіцца гісторыяй роднага краю.

Аўтарскі калектыў, у які ў асноўным уваходзяць выкладчыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, паставіў перад сабой вельмі цяжкую і складаную задачу — даць кароткі нарыс фактаў і падзей ад старажытных часоў да нашых дзён, прааналізаваць эканамічнае, палітычнае, культурнае развіццё кожнай гістарычнай эпохі, разгледзець важнейшыя пытанні ўнутранай і знешняй палітыкі, сацыяльнай барацьбы і грамадскага руху.

Як жа вырашана гэта задача?

З цікавасцю чытаюцца тэма 3 "Беларусь у Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XIII — сярэдзіне XVIст.", параграфы "Сацыяльна-палітычнае развіццё ў другой палове XVII ст." (аўтар П.А.Лойка), "Адмена прыгоннага права", "Развіццё капіталізму ў сельскай гаспадарцы", "Развіццё капіталізму ў прамысловасці", "Народніцкі рух" (аўт.В.А.Цяплова), "Беларусь на рубяжы XIX—XX ст." (аўтар А.Г.Каханоўскі) і некаторыя іншыя матэрыялы навучальнага дапаможніка. Адчуваецца, што яны напісаны на аснове навейшых даследаванняў, прычым даволі выразна і даступна.

Добра, што ў канцы кнігі дадзены важнейшыя даты гісторыі Беларусі.

Важна, што ў рэцэнзуемым дапаможніку па-новаму разглядаюцца характэрныя рысы грамадскага жыцця Беларусі 1928—1939 гадоў, умела аналізуюцца прычыны ўзнікнення ў Савецкім Саюзе ў гэты перыяд недэмакратычнай сістэмы (аўтар В.І.Мінькоўскі).

Разам з тым трэба прама сказаць, што большасць матэрыялаў навучальнага дапаможніка напісана са старых пазіцый і не можа сёння задаволіць настаўнікаў гісторыі сярэдніх школ, гімназій, ліцэяў, выкладчыкаў тэхнікумаў і прафесійна-тэхнічных вучылішчаў, дапытлівых старшакласнікаў і абітурыентаў.

Прывядзём некалькі прыкладаў. Калі старшакласнік нічога больш не прачытае, акрамя рэцэнзуемай кнігі "Гісторыя Беларусі", ён не зразумее прычыны разгону І Усебеларускага з'езда, арышту яго прэзідыума і шэрагу дэпутатаў у ноч з 17 на 18 снежня 1917 года, праведзенага Саветам Народных Камісараў Заходняй вобласці і фронту (параграф "Нацыянальнае самавызначэнне ў першыя месяцы пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі"). У гэтым параграфе на стар. 111 напісана, што "з'езд... не прызнаў законна выбраны Аблвыкамзах і яго СНК". Чытач можа падумаць, што пасля перамогі Кастрычніка на Беларусі адбыліся ўсенародныя, "законныя" выбары. Але ж гэта не так, таму што не адпавядае рэчаіснасці.

Я разумею, што рэцэнзуемая кніга — гэта кароткі нарыс. І ўсё ж не магу згадзіцца, што ўтварэнню Беларускай Народнай Рэспублікі рэдактары навучальнага дапаможніка адвялі аж... крыху больш, чым палову старонкі 114-й. Чытач так і не даведаецца аб яе дзейнасці і нават якія краіны прызналі БНР.

Не вытрымлівае ніякай крытыкі змест параграфа "Уз'яднанне Заходняй Беларусі з БССР". Менавіта так пісалі ў нашым друку пяцьдзесят пяць гадоў назад — восенню 1939 года. Прывядзём некалькі сказаў з гэтага параграфа: "1 верасня 1939 г. фашысцкая Германія без аб'яўлення вайны напала на Польшчу. Яе ўрад не змог арганізаваць абарону сваёй краіны і ўцёк за мяжу. Нямецкія войскі да сярэдзіны верасня захапілі ўсю Польшчу і набліжаліся да Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. Таму савецкі ўрад аддаў распараджэнне Галоўнаму камандаванню Чырвонай Арміі перайсці граніцы і ўзяць пад сваю абарону насельніцтва Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі. 17 верасня... Чырвоная Армія пачала свой паход у Заходнюю Беларусь. Насельніцтва Заходняй Беларусі сустракала савецкіх воінаў кветкамі, хлебам-соллю...". Я думаю, хопіць. На гэтым, бадай, і спынімся.

"Дык гэта ж праўда!", — могуць сказаць многія чытачы. На самай справе гэта не ўся праўда, а толькі яе палова, як кажуць, паўпраўда. А поўная праўда заключаецца ў тым, што ўступленне войск Чырвонай Арміі на тэрыторыю Заходняй Беларусі было вынікам тайнай змовы Сталіна з Гітлерам, а дакладней, здзяйсненнем пакта "Молатава—Рыбентропа" ад 23 жніўня 1939 года — за тыдзень да пачатку другой сусветнай вайны.

У кнізе Г. Л. Разанава "Сталін — Гітлер. Дакументальны нарыс савецка-германскіх дыпламатычных адносін. 1939—1941" (М., 1991), іншых матэрыялах, шэрагу газетных і часопісных артыкулаў прыводзіўся тэкст Пакта аб ненападзе паміж Германскай імперыяй і Саюзам Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Прывядзём вытрымкі з гэтага дакумента, якія раней трымаліся ў сакрэце:

"2. У выпадку тэрытарыяльна-палітычнай перабудовы абласцей, якія ўваходзяць у склад Польскай дзяржавы, граніца сфер інтарэсаў Германіі і СССР будзе праходзіць прыкладна па лініі рэк Нарэў, Вісла і Сан.

3. Пытанне аб тым, ці з'явіцца ў інтарэсах абодвух бакоў жаданым захаванне незалежнай Польскай дзяржавы і якімі будуць граніцы гэтай дзяржавы, можа быць канчаткова высветлена толькі ў ходзе далейшага палітычнага развіцця.

У любым выпадку абодва ўрады будуць рашаць гэта пытанне на шляхах двухбаковай згоды".

Выступіўшы раніцай 17 верасня, савецкія войскі да 25 чысла прасунуліся на 250—300 км. Ацэньваючы сёння дзеянні Савецкага Саюза ў верасні 1939 г. на тэрыторыі Польшчы, нельга не адзначыць іх глыбокую супярэчлівасць. З аднаго боку, аддавочна пазітыўнасць таго факта, што ўкраінскае і беларускае насельніцтва Польшчы пазбегла ў 1939 г. фашысцкай акупацыі, а затым змагло аб'яднацца з брацкімі савецкімі народамі. Аднак не скінеш з рахунку і тое, што ўсё гэта ажыццяўлялася ў адпаведнасці з сакрэтным пратаколам, падпісаным кіраўніцтвам СССР і гітлераўскай Германіі. Несучы свабоду ад фашысцкай акупацыі насельніцтву Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі, Савецкі Саюз адначасова ў вачах сусветнай дэмакратычнай грамадскасці панёс істотныя маральныя выдаткі.

Акрамя таго, у рэцэнзуемым дапаможніку нічога не гаворыцца аб масавых дэпартацыях насельніцтва Заходняй Беларусі ў 1940—1941 гадах, ахвярай якіх стала больш чым 100 тысяч чалавек. Адзначаецца, што ў выніку новага адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу ў склад БССР увайшла Віленская вобласць, але не ўказваецца, што неўзабаве яна была перададзена Літве.

Аўтар параграфа "Пачатак Вялікай Айчыннай вайны" сцвярджае, што да пачатку вайны група армій "Цэнтр" мела значную перавагу ў сілах над войскамі Заходняй асобай ваеннай акругі, якая была пераўтворана ў Заходні фронт. Але ж гэта не так. На самай справе група армій "Цэнтр" мела перавагу над войскамі акругі па асабістым складзе ў 1,2 раза, па гарматах і мінамётах у 1,06 раза. Па колькасці ж танкаў і самалётаў перавага была на нашым баку. Яна адпаведна складала 2,5:1 і 1,08:1. І зноў, такім чынам, не праўда, а паўпраўда і нават, можна сказаць, няпраўда. (Гл.кн. Тимохович И. В. Битва за Белоруссию. 1941—1944. Мн., 1994. С. 12).

І яшчэ. Адметная асаблівасць рэцэнзуемага навучальнага дапаможніка "Гісторыя Беларусі" — гэта мноства памылак у датах, прозвішчах, гістарычных фактах, не гаворачы ўжо пра павярхоўнасць ацэнкі гістарычных падзей. Цяжка нават уявіць, што ў нашы дні з-пад пяра, здаецца б, высокакваліфікаваных выкладчыкаў з кандыдацкімі і доктарскімі дыпломамі, можа выйсці такая кніга.

Не буду пералічваць усе памылкі, а назаву толькі некаторыя з іх. На стар. 90 замест "Рэвалюцыя 1905—1907 гг. чорным шрыфтам выдзелена: "Рэвалюцыя 1901—1905 гг.". Прачытаўшы старонку 148-ю, чытач даведаецца, што "17 верасня 1938 г. Чырвоная Армія пачала свой паход у Заходнюю Беларусь". На самай справе гэта падзея адбылася ў 1939 г.

На стар. 142 пры пераліку вядомых беларускіх вучоных у адным сказе дапушчаны дзве памылкі ў імені і прозвішчах. Названы матэматык Ц.Берсцін і хімік І.Шкацелеў. Правільна іх прозвішчы трэба пісаць: Бурсцін, У.Шкацелаў.

Падпольная клічка палітычнага сакратара ЦК КПЗБ (а не старшыні ЦК КПЗБ, як указана у кнізе) Язэпа Лагіновіча была Павел Корчык, а не Карчык (стар. 145).

Бадай, большасці старшакласнікаў вядома, што праслаўленага камандзіра, а потым камісара партызанскага атрада Героя Савецкага Саюза Бумажкова звалі Ціханам, а не "У", як прыведзена на стар. 156. Кіраўніком падпольнай арганізацыі "Камітэт садзеяння Чырвонай Арміі", створанай у Магілёве ў 1942 г., быў К. Ю. Мэтэ, а не Матэ, як указана на 157-й стар. Намеснікам першага сакратара ЦК(б) Б.М. Гусарава з 1948 г., дакладней, сакратаром ЦК па ідэалогіі быў М. Іаўчук, а не Каўчук, як гэта адзначана на стар. 174.

Прачытаўшы 164-ю старонку, чытач даведаецца, што беларускі народ вылучыў са свайго асяроддзя Маршала Савецкага Саюза В. Сакалоўскага. На самай справе Маршал Васіль Данілавіч Сакалоўскі па нацыянальнасці рускі, які нарадзіўся ў вёсцы Козлікі Беластоцкага ўезда Гродзенскай губерні.

Хочацца, каб рэдактары і большасць аўтараў рэцэнзуемай кнігі былі больш адказнымі ў высакароднай справе напісання навучальных дапаможнікаў для настаўнікаў і вучняў.

**Эмануіл ІОФЕ,**
**доктар гістарычных навук.**

КАЛОНКА З ПРАЦЯГАМ

**Анатоль АЎРАМЧЫК**

# У жніўні дзевяноста чацвёртага

(Пачатак у № 86 — 89, 91)

Не дайшло, што тое сказана мне. Мне ўжо нічога не даходзіла. Я утрупянеў і ўсё наступнае ўспрымаў не інакш, як вар'ят.

Яны збегалі кудысьці, вярнуліся, сапучы, гружаныя двума раздутымі салдацкімі рэчавымі мяшкамі — сідарамі. Подбегам прынеслі яшчэ адзін. З усіх трох на таго чалавека з цяжкім звонам сыпаліся бранзалеткі, гадзіннікі, крыжы, манеты... Я стаяў ля самай труны, ля ног, і бачыў, як Паўлоўскі і той другі раўнялі па ім усё гэтае дабро, рассоўвалі ля галавы, за бакавіцы... Не бачыў, а тупа, ашклянела глядзеў і не мог зразумець, за якія цяжкія грахі Усявышні прызваў мяне ў такія сведкі.

Па краях вечка яны ўмалацілі не менш дзесяці цвікоў, паднатужыліся, і дамавіна з грукатам паляцела ў глыбокую яму. Паўлоўскі, прыкрыўшы, засвяціў ліхтарык, заглянуў у магілу:

— Крыху бокам лягла. Мацы яе туды!

Запрацавалі рыдлёўкамі. Ногі не трымалі і апусцілі мяне долу. Залапацілі яны хутка, лішнюю зямлю расцерушылі побач, старым лісцем прысыпалі, калі ўжо днела. Маскіравалі асабліва дбала, раз-пораз адыходзілі, глядзелі, ацэньвалі, зноўку падпраўлялі, пакуль іхняя д'ябальская праца не выдалася ім бездакорнай.

— Чаго соплі развесіў?

Паўлоўскі падышоў, паклаў на плячук руку. Тую самую, якой усадзіў нож.

— Падымайся.

Я падняўся не таму, што ён загадаў, а таму, што мне было усё роўна.

— Запомні гэтае месца. Між бярозай і вольхай. Няхай не стане бярозы, вольхі не стане, клады праваляцца, неба перакуліцца, а ты — помні. Уразумеў?

Клады праваляцца... Неба перакуліцца...

— Чаго маўчыш? —зароў ён і з усяе сілы страсянуў мяне за плечы.

— Я цябе чую...

— Чую, бачу! — здзекліва перакрывіў. — Дарэчы, убачыш ты мяне не хутка. Можа нават вельмі не хутка.

Няўжо яшчэ ўбачу? Няўжо мне не хопіць тваёй клятай злавеснай здані, якая цяпер ці адступіцца ад маёй змардаванай душы хоць на крок? Душагуб, людабойца, жывёд, ты суцяшаеш, каб не маркоціўся па табе, каб помніў паганы дотык твае крывавае рукі...

— Але я вярнуся, Вацлаў, і мы забяром тое, што нам па праву належыць траім. Пра тую брыдоту, якая сядзела за тваім сталом, не думай і паталі не май. Ён здрадзіў справе і цяпер там, дзе і павінен быць — у дамавіне. Няхай хоць так часткаю згладзіць віну — апякуе скарб. А цяпер — бывай. Нам у дарогу.

З аўтаматамі наперавес яны падаліся з могілак. Не могучы заставацца тут ні хвіліны, рушыў у супрацьлеглы бок і я.

— Вацлаў!

Я азірнуўся. Паўлоўскі, не аддаліўшыся і на пяць крокаў, глядзеў прама, жорстка, бы цэліўся.

— Ты зразумеў? Я вярнуся. Праз пяць, дзесяць, дваццаць год, але вярнуся. Або ён. Або нехта ад нас.

У голасе чуўся метал. І ўжо сцішана, звонкім шэптам:

— А рыдлёўкай, Вацлаў, цешся толькі на агародзе. Там спакайней капаць.

Мы зноў разышліся. Я не стрываў, бо такі гнёт несці не мог.

— Казімір! А калі ты не забіў яго? — каляны язык ледзьве варочаўся ў перасохлым роце.

— Крыўдзіш, Вацлаў! З такой прычыны на мяне ніхто ніколі не скардзіўся.

***

Змяркалася. Майстроўня напаўнялася змрокам і ў ёй станавілася няўтульна, трывожна. Да таго ж, з захаду насоўвалася хмара. Пан Вацлаў пстрыкнуў выключальнікам.

— З тае ночы я пачаў насіць у сабе вострае джала страху. Я і гэтыя "пушкі" са страху збіраў, быццам хацеў займаць кругавую абарону, хаця і разумеў: нікуды не схавацца, толькі сядзець і чакаць. Іншая справа — чаго дачакаешся. Прыйдуць ноччу: пайшлі золата капаць. Мусіш пайсці, а там — фінку пад рабрыну і кладзіся ў труну побач з тым небаракам. Таму я, ведаеш, на што спадзеўку меў? І вельмі прагнуў, каб яна спраўдзілася. Удвох выкапаюць, а мяне ні зваць, ні чапаць не будуць. Ды хай бы яны тыя бранзалеты на каленях малілі ўзяць — ні ў век! Па іх чэрві трупныя поўзалі! А дзе і з каго яны зняты?

Могілкі, святое месца, там бацька і маці ляжаць, пужалі і зблізку, і здаля. Ледзьве прымушаў сябе ісці туды нават на радаўніцу, калі поўна людзей, — прыбраць магілы. Больш-менш адлягло, як пачала сяліцца вёска. Сярод мужыкоў ды баб крышку акрыяў, весялей на свет глядзець пачаў. Вучыў у мястэчковай школе, а неўзабаве і вясковую пабудавалі. Пабудавалі! Каб зноў штодня напамінаць Вацлаву Птушынскаму: ты рана супакоіўся! Сем толькі гадоў мінула, а ён жа і праз два дзесяткі не супраць адсартаваць ад касцей "баявога сябра" тое, што і за стагоддзі не згніе. А пабудавалі школу напрыканцы Залучан, бо ведалі: насцягваюць яшчэ хутароў, і школа ўпішацца пасярэдзіне вёскі. І не проста напрыканцы, а вынеслі на пагорак, бы царкву. Залучаны тады канчаліся ў самы раз на мяжы могілак. Каб прайсці у школу — шыбуй праз саменькія клады. Зварыла ў кагось галава, школа і — клады. Добра хаця, што не вокнамі на магілы. А дзеці і сцежку да таго ж пратаптали нацянькі.

На гэтых нашых хутаранскіх могілках мала калі хавалі аж да шасцідзесятых.

І вось слухай. Восенню, у кастрычніку надарылася. Вяртаемся пасля ўрокаў з Казельцам, фізікам, са школы. З могілак нехта махае:

— Іосіфавіч! Аляксандравіч! Пасобце!

Зварочваем у браму. Аказалася, цётка Аліна, на калгасных вагах рабіла, прывезла мужу, зямля яму пухам, ад ран памёр, літы крыж з мястэчка. Валтузяцца з сынам з тым крыжам, зняць з павозкі не могуць — цяжкі надта. Не хацеў я сюды ісці, але ж не адмовіш. А мужа Алінінага паклалі поруч з ягоным бацькам, углыбі. І кіруемся мы з Казельцам прама на пазначаныя нелюдзем Паўлоўскім бярозу з вольхай. Параўняліся, у мяне і ногі прыраслі.

Між дрэвамі высіўся свежы горбік зямлі з новавыструганым каталіцкім крыжам, а на ім надпіс па-польску: "Скрызінская Амелія Станіславаўна. 1869—1954". Кроў малаткамі запульсавала ў галаве. Я стаяў і не мог адарваць погляду ад магілы.

Казелец азірнуўся.

— Не ведаў, што Амеля памерла? Учора пахавалі.

Я ведаў. Не знаў толькі, уявіць не мог, што кольвечы падобнае магло здарыцца. Пракляты адлюдак! Глуміўся над жывымі, цяпер працягвае здзек над мёртвымі. Бедная бабка Амеля!

Хіба заслужыла ты за свой доўгі век такое тхліннае месца ў роднай зямельцы?!

О, ён бы, пачвара, паціраў рукі: цяпер маскіроўка — найлепшая.

— Пражыла будзь здароў, — паважліва прамовіў Казелец, калі мы той жа дарогай вярталіся назад. — Пульхная зямелька нябожчыцы трапілася. Мужчыны казалі, колькі тут ям перакапалі, то такой падатлівай зямлі нідзе.

Ведаў бы ты, Аляксандравіч, чаму яна гэткая незляжалая, зямля, — слупам бы стаў.

Зноў стукаўся па начах у вокны ліпкі страх у звярынай абразіне Казіміра Паўлоўскага. Для смеласці глытаў на сон шклянку першаку, клаў пад падушку пісталет.

Ніхто не прыходзіў.

І толькі пазней я дапяў, што ніхто па тым часе і прыйсці не мог. Хто б яны ні былі — акаўцы ці абвераўцы з важным заданнем, — усе меліся рана-позна перайсці фронт. А з мяшкамі золата па тылах не басцяюцца і лінію фронту не пераходзяць. Да таго ж, Паўлоўскі хоць і не абдзелены бандыцкімі схільнасцямі, ды ўсё ж нячыстая насіла яго не па волі лёсу, а па волі нямецкай разведкі. І не золата яго сюды рабаваць выправілі. Але калі яно ў рукі трапіла, то трэба ж нешта прыдумаць. Выкінуць — шкада. Закапаць у лесе ці ў полі — трасцу пасля знойдзеш. Схаваць у надзейнага чалавека — дык яшчэ паспрабуй знайсці такога і ўламаць. Бо знойдуць — капец! — на тых бранзалетках крыві — не адмыешся. Вось і прыдумаў д'ябальскі спрат. Я ніяк дапетрыць не мог: якой хваробы Паўлоўскі мяне прысабачыў? З ягонай абачлівасцю — і раптам такую таямніцу на згадку пра сябе мне пакінуў.

Дагадаўся ўрэшце. За вартаўніка, за наглядчыка, аставіў. Павязаў убачаным і ўчутым, а гэта, лічы, як саўдзел, і папярэдзіў: помні месца! Каб яшчэ больш застрашыць, ён і напарніка на маіх вачах у дамавіну ўклаў, хаця мог бы яго і ў лесе ўходаць.

Мінаці гады. Гнятлівае чаканне сустрэчы з мінулым то адступала, то накатвала зноў. Гадаў-перагадаў: жывы ці здох той супастат? Багамолаў падказаў: утрупянеў!

У ДАПАМОГУ НАСТАЎНІКУ І ВУЧНЮ

# Сусветная гісторыя

(Працяг.
Пачатак на 3-й стар.)

Вырашалася пытанне аб тым, будзе рэвалюцыя спынена ці яна пойдзе далей, будзе паглыбляцца.

У ходзе грамадзянскай вайны парламент прыняў шэраг рашэнняў, якія цалкам задаволілі вярхі буржуазіі і новага дваранства. Часткова былі знішчаны манаполіі і пашырана свабода гандлёва-прадпрымальніцкай дзейнасці. Быў прыняты закон аб адмене "рыцарскіх трыманняў", г.зн. феадальнага падатку на карысць караля. Гэты падатак плацілі лендлорды. Цяпер зямля, якая раней з'яўлялася іх умоўным уладаннем, стала іх поўнай уласнасцю. Былі канфіскаваны (адабраны) зямельныя ўладанні караля і яго прыхільнікаў, англіканскай царквы на агульную суму ў некалькі мільёнаў фунтаў стэрлінгаў. Быў знішчаны епіскапальны лад царквы.

Пасля прыняцця гэтых законаў большасць парламента і армейскія вярхі лічылі мэты рэвалюцыі дасягнутымі. Яны імкнуліся дагаварыццам з каралём аб умовах яго вяртання на трон. Аднак па гэтых пытаннях узніклі сур'ёзныя рознагалоссі ўнутры парламента, а таксама паміж парламентам і арміяй. Справа дайшла да таго, што кавалерыя Кромвеля абкружыла будынак парламента і сілай выгнала з яго правадыроў умеранай групоўкі. Гэта падзея атрымала назву чысткі парламента. Большая частка членаў парламента згаджалася на аднаўленне манархіі на больш умераных умовах, чым другая частка парламента і армія.

З другога боку, узніклі сур'ёзныя рознагалоссі ўнутры арміі — паміж салдатамі і армейскімі вярхамі. У адрозненне ад афіцэраў, салдаты, якія ў большасці сваёй з'яўляліся былымі сялянамі, былі незадаволеныя палітыкай парламента. Парламент захаваў у недатыкальнасці ўсе феадальныя падаткі. Працягвалася абеззямельванне сялян.

Настрой салдат і іх грамадзянскіх аднадумцаў выражала палітычная групоўка левелераў, г.зн. ураўнавальнікаў (ад англ. to level — ураўноўваць). Яе лідэрам быў Джон Лільберн. Як і Кромвель, ён нарадзіўся ў сям'і дваранiна сярэдняга дастатку. Але, у адрозненне ад Кромвеля, Лільберн быў больш рашучым пурытанінам і рэвалюцыянерам. Ён выступіў у абарону жабракоў і абяздоленых англічан. Лільберн дабіваўся ўраўнавання ўсіх англічан у палітычных правах, прадастаўлення ўсім мужчынам права голасу на парламенцкіх выбарах незалежна ад іх багацця. Усеагульнае выбарчае права (для мужчын), на яго думку, дазволіла б выбраць такі парламент, які павінен быў бы прыняць законы на карысць бедных.

Прапаганда левелераў выклікала актыўнае супраціўленне з боку афіцэраў і грамадзянскіх улад. Палітычная барацьба ў Англіі паглыблялася.

У гэты час адбылася падзея, якая надала ёй новы паварот. Карл І уцёк з турмы. Гэта паслужыла яго прыхільнікам сігналам для новага ўзброенага выступлення супраць парламента. У 1648 г. пачалася другая грамадзянская вайна. Кароль яе прайграў і быў пакараны смерцю 30 студзеня 1649 г.

19 мая 1649 г. парламент аб'явіў Англію рэспублікай.

Галоўнае становішча ў рэспубліканскай Англіі займала палата абшчын. Яна прадстаўляла тады інтарэсы сярэдняй часткі буржуазіі і новага дваранства.

Рэспубліканскае праўленне аказалася нядоўгім. Палітыка парламента наткнулася на супраціўленне шматлікіх прыхільнікаў манархіі. Гэта ж палітыка не задавальняла шырокія народныя масы. Супраць палітыкі рэспублікі выступілі левелеры, аднак іх паўстанне было задушана. У 1649 г. узнік рух "сапраўдных левелераў", або дыгераў (ад лац. digger — капальнік). Беднякі сталі распрацоўваць пусткі. Іх правадыром быў сын дробнага гандляра Джэрард Уінстэнлі. Салдаты разагналі дыгераў.

Аднак буржуазна-дваранская рэспубліка не змагла процістаяць сваім праціўнікам. Непапулярнасць парламента прымусіла Кромвеля разагнаць яго сілай у красавіку 1653 г.

Кромвель устанавіў асабістую дыктатуру і бескантрольна правіў да сваёй смерці ў 1658 г. Гэты перыяд у англійскай гісторыі названы пратэктаратам Кромвеля, калі ён праявіў сябе суровым абаронцам інтарэсаў буржуазіі і новага дваранства.

Пасля смерці Кромвеля ўзмацніліся пазіцыі прыхільнікаў аднаўлення (рэстаўрацыі) манархіі Сцюартаў. Па ініцыятыве армейскіх вярхоў у 1660 г. на англійскі прастол быў запрошаны сын пакаранага смерцю караля Карла І. Ён стаў новым каралём Англіі пад імем Карла ІІ.

ПАРЛАМЕНТАРНАЯ МАНАРХІЯ

Карл ІІ правіў да 1685 г. Змяніў яго Якаў ІІ. Карл ІІ і Якаў ІІ імкнуліся аднавіць абсалютызм, расправіцца з рэвалюцыянерамі. Гэта выклікала моцную незадаволенасць парламента і сіл, якія стаялі за ім. У выніку ў 1688 г. адбыўся новы дзяржаўны пераварот. Якаў ІІ быў звергнуты. Парламент запрасіў заняць англійскі трон правіцеля Галандыі Вільгельма Аранскага. У пачатку 1689 г. ён быў абвешчаны англійскім каралём.

Увосень 1689 г. парламент прыняў біль (закон) аб правах. Ён замацаваў палітычную сістэму Англіі, якая сфарміравалася ў выніку рэвалюцыі. Асаблівасцю гэтай сістэмы было ўзмацненне ролі парламента і абмежаванне каралеўскай улады. Гэта быў рэжым канстытуцыйнай (г. зн. абмежаванай законамі) манархіі.

Кіраўніком англійскай дзяржавы з'яўляўся манарх. Але біль аб правах забараняў яму адмяняць выдадзеныя парламентам законы, збіраць не зацверджаныя парламентам падаткі, набіраць без згоды парламента войска.

Біль аб правах зацвярджаў вяршэнства парламента над манархічнай уладай. У далейшым роля парламента, перш за ўсё палаты абшчын, яшчэ больш узрасце.

У выніку рэвалюцыі доступ да палітычнай улады атрымала буйная буржуазія. Яна ўзмацніла свой уплыў на палітыку краіны дзякуючы ўзмацненню ўлады парламента, у якім было многа яе прадстаўнікоў. Аднак галоўнай палітычнай сілай з'яўляліся буйныя землеўладальнікі — лендлорды. Іх прадстаўнікі займалі ключавыя пасады ў дзяржаве. У той жа час адбывалася іх далейшае абуржуажванне. Улада буйной буржуазіі ўзмацнялася.

Змяненні ў палітычнай сферы не палепшылі матэрыяльнага становішча большай часткі англічан. Сялян не вызвалілі ад падаткаў. Паскорыўся працэс іх абеззямельвання. Не палепшылася жыццё рабочых, раместнікаў. Іх і іх пакаленні чакалі дзесяцігоддзі напружанай барацьбы з уладай буржуазіі і новага дваранства за паляпшэнне ўмоў жыцця.

1. Ахарактарызуйце эканамічнае становішча Англіі напярэдадні рэвалюцыі. 2. Якую ролю ў кіраванні адыгрывалі каралі і парламент? 3. На якія грамадскія сілы яны абапіраліся? 4. У чым заключаліся рэлігійныя супярэчнасці ў Англіі? 5. Якія супярэчнасці выклікалі рэвалюцыю? 6. Раскажыце аб грамадзянскай вайне 1642—1646 гг. 7. Якія падзеі адбываліся ў Англіі ў 1647 і 1648 гг.? 8. Калі Англія была абвешчана рэспублікай? 9. Калі ўстанавіўся пратэктарат Кромвеля? 10. Як і калі адбылася рэстаўрацыя Сцюартаў? 11. У чым заключаліся асноўныя вынікі англійскай буржуазнай рэвалюцыі XVII ст.?

**Аўтар СІНІЦА В.І.**

СВЕЖЫЯ ЧАСОПІСЫ

# "НАРОДНАЯ АСВЕТА"

Лістападаўскі нумар часопіса адкрываецца рэдакцыйным артыкулам, прысвечаным ролі гуманітарных навук у працэсе адраджэння нацыянальнай сістэмы адукацыі і выхавання вучнёўскай моладзі.

Пад рубрыкай "Арганізацыя народнай адукацыі" надрукаваны артыкулы дацэнта кафедры педагогікі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта, кандыдата педагагічных навук С.Кашлева "Тэндэнцыі і наватыкі ў педагагічнай адукацыі" і загадчыка аддзела інтэлектуальнай творчасці Мінскага палаца дзяцей і моладзі, кандыдата педагагічных навук Г.Каваленкі "Канцэпцыя "Адораныя дзеці": арыентацыя ў будучыню".

Артыкулы дацэнта кафедры педагогікі і псіхалогіі Гомельскага дзяржаўнага універсітэта Ф.Кадола "Уплыў сям'і на развіццё годнасці асобы школьніка" і дырэктара сярэдняй школы № 10 Брэста А.Трыфанюка "Псіхалагічныя асновы прафарыентацыі ў сярэдняй школе" змешчаны пад рубрыкай "Пытанні педагогікі і псіхалогіі".

Выхаваўчая работа з вучнёўскай моладдзю прадстаўлена ў нумары артыкулам дацэнта кафедры педагогікі і псіхалогіі Мазырскага педінстытута, кандыдата педагагічных навук Я.Саўчанкі "Фарміраванне асобы, здольнай супрацьстаяць амаральным праяўленням".

Працэсам паскарэння адраджэння нацыянальнай сістэмы адукацыі і выхавання прысвечаны тэматыка і праграма курса "Этычныя погляды Францыска Скарыны", падрыхтаваныя дактарантам Нацыянальнага інстытута адукацыі М.Станчыц.

Артыкул настаўніцы гімназіі № 199 Мінска Г.Ясковіч "Другі і трэці законы Ньютана ў гуманітарных класах", працяг артыкула В.Сычэўскай "Мастацтва Беларусі" і працяг артыкула старшага выкладчыка Полацкага дзяржаўнага універсітэта, кандыдата педагагічных навук Н.Лысовай "Што такое мастацтва кіно?" надрукаваны пад рубрыкай "Тэма са школьнай праграмы".

Настаўнікам розных прадметаў адрасаваны артыкулы старшага выкладчыка кафедры рыторыкі, методыкі выкладання славянскіх моў і літаратур Белдзяржуніверсітэта В.Караушкінай "Дзве гадзіны з паэтам, ці Размова пра Мандэльштама", старшага навуковага супрацоўніка Інстытута павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі, кандыдата педагагічных навук А.Перавознага "Праблемы ўнутрыкласнай дыферэнцыяцыі пры навучанні рускай мове", настаўніка Крошынскай сярэдняй школы Баранавіцкага раёна Г.Дземідзенкі "Наглядныя канспекты ў навучанні фізіцы", загадчыка кафедры прыкладной матэматыкі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта, прафесара А.Паўлоўскага, дацэнта гэтай жа кафедры В.Панамарэнкі і настаўніка інфарматыкі сярэдняй школы № 2 Любані В.Уласаўца "Прыкладныя пакеты і мова праграміравання", а таксама заканчэнне артыкула старшага выкладчыка кафедры рускай мовы Мазырскага педагагічнага інстытута В.Русецкага "Пытанні культуры мовы пры аналізе мастацкіх твораў".

У дапамогу настаўнікам, якія займаюцца пазакласнай работай з вучнямі, надрукаваны артыкулы выконваючага абавязкі прафесара кафедры геаграфіі Брэсцкага педагагічнага інстытута, кандыдата геаграфічных навук Я.Мяшэчкі "Сістэма назіранняў у навакольным асяроддзі па геаграфіі" і настаўніка сярэдняй школы № 64 Мінска В.Апона "Матэматычная гульня "Эрудыты".

Пад рознымі рубрыкамі змешчаны артыкулы загадчыка аддзялення праблем гуманітарнай адукацыі Нацыянальнага інстытута адукацыі, доктара філасофскіх навук, віцэ-прэзідэнта Беларускай эстэтычнай асацыяцыі В.Салеева "Эстэтычны свет і выхаванне асобы" і старшага навуковага супрацоўніка Нацыянальнага інстытута адукацыі У.Андрэева "Еўрапейскія школы" Заходняй Еўропы — праваобраз міжнародных школ будучага адзінай Еўропы".

**Уладзімір ЯКУБОВІЧ.**

Рэспубліканскі камітэт прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі смуткуе з выпадку заўчаснай смерці старшыні прафсаюзнага камітэта супрацоўнікаў Магілёўскага машынабудаўнічага інстытута ШАСТАКОВА Алега Фёдаравіча і выказвае спачуванне яго родным і блізкім.

Галоўны рэдактар Алег КУЛІЦКІ.

ЗАСНАВАЛЬНІК — МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Выдавецтва "Полымя" (220004, Мінск, праспект Машэрава, 11).

НАШ АДРАС:
220034, МІНСК, ВУЛІЦА ЗАХАРАВА, 42.
Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 36-91-42; першага намесніка галоўнага рэдактара — 36-53-22; намесніка рэдактара-адказнага сакратара — 36-40-63; аддзелаў: праблем выхавання — 36-43-62, 36-41-55; школ — 36-90-63; органаў кіравання — 36-43-71; сацыяльных праблем; ВНУ і тэхнікумаў — 36-41-55; прафтэхадукацыі; пісьмаў і навін; культуры — 36-44-25

Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па-бацьку, зваротны адрас, нясуць адказнасць за дакладнасць фактаў і іншай інфармацыі.

Пісьмы, рукапісы, фотаздымкі і малюнкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Аб'явы могуць друкавацца не толькі на дзяржаўнай, але і на замежных мовах.

Меркаванне аўтараў публікацый не абавязкова адлюстроўвае пункт гледжання рэдакцыі.

Адказны дзяжурны Георгій КЛЯБАНАЎ.

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку."
220041, Мінск, праспект Ф. Скарыны,79.
Аб'ём — два друкаваныя аркушы. Спосаб друку — афсетны.Фармат А2. Індэкс 63867.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 Замова №92
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 19 11 12
Падпісана да друку 15.11.94 г. у 18.10
Наклад 51.374 паасобнікі.